# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 19 (1513) ГОД XXX БЕЛАСТОК 12 МАЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.



Наведвальнікі запаўнялі ўсе аб'екты выстаўкі.

## ВЫГАДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Так было заўсёды, што да людзей ідзём мы з самым лепшым, тым, што высокай якасці і элегантнае. Словам, кожны высылаючы свае тавары на бліжэйшы ці далейшы рынак, намагаецца, каб яны былі лепшымі ад вырабаў тае краіны, у якую ён іх накіроўвае. Бо хто ж возьме горшае і брыдчэйшае чужое, ад свайго лепшага і прыгажэйшага? А гэта абавязвае ўсіх да няспыннага ўдасканальвання сваіх вырабаў — павышання якасці і паніжання іх кошту. На гэтым добра выходзяць усе: і вытворцы, і пакупнікі. Якраз такое шляхетнае спаборніцтва было відаць у тых дзесятках тысяч узораў вырабаў, якімі былі запоўнены павільёны і пляцоўкі адкрытай на выставачных аб'ектах на вул. Кавалерыйскай у Беластоку з 21 красавіка да 10 мая г.г. выстаўкі „40 год выгаднага для абедзвюх бакоў супрацоўніцтва". Яна была асаблівым аглядам з нагоды 40-годдзя супрацоўніцтва Народнай Польшчы і Савецкага Саюза.

Ад самай дробязнай стужачкі з беластоцкай „Пасманты" да сучаснай камфортнай „Лады" — усё на ёй было прыкладам высокай культуры вытворчасці, шыкоўнае. І не толькі на выстаўцы. Мы са штодзённага жыцця ведаем дасканалую якасць вырабаў з надпісам „Зроблена ў СССР". Бо няма дома, у якім гэтых вырабаў не было б, калі не элегантны „Масквіч" у нашым гаражы, то надта ж спраўны беларускі халадзільнік „Мінск", калі ўжо не каляровы маскоўскі тэлевізар „Рубін", то хоць бы мінскі ручны гадзіннік „Прамень". Няма такой фабрыкі ў Польшчы, дзе б не працавалі савецкія машыны, і няма такога палетка ў полі, які б

(Працяг на стар. 2)

## Зрэпарцёрскіх запісак

### СЛЕДАМ ЗА „НІВАЙ"

У сераду, 3 красавіка г.г., спадарожнічаў я Валянціну Аверу ў паездцы па Гайнаўшчыне. В. Авер — працаўнік Беластоцкага прэсавага выдавецтва, якое, як і іншыя газеты, выдае таксама наш штотыднёвік. Цікавіў нас продаж „Нівы" ў кіёсках прадпрыемства „Рух". Цікаўнасць поўнасцю апраўданая: больш экземпляраў прададзенай „Нівы" — гэта меншыя затраты для самастойнага і самафінансуючагася выдавецтва, якое поўнасцю нясе ўсе расходы нашага, на жаль, дэфіцытнага часопіса.

*

Спыняемся ў Нарве. У гэтай гміне ў прадпрыемства „Рух" шэсць сваіх кіёскаў і клубаў.

На жаль, продаж прэсы не з'яўляецца асноўным заняткам працаўнікоў гэтых кіёскаў і гаспадыняў вясковых клубаў „Рух". Узровень іх зарплаты залежыць ад узроўню тавараабароту. Каб зарабіць, скажам, 12 тысяч злотых у месяц, неабходна ўтаргаваць звыш паўмільёна злотых. Такога абароту ніхто ніколі не дабіўся, прадаючы адно толькі газеты, у тым ліку і „Ніву". Выручку ў кіёсках „Рух" падымаюць шматлікія тавары штодзённага ўжытку. З пункту гледжання прадаўца газеты астаюцца для яго толькі дадаткам да гэтай таварнай усячыны. „Ніва", для прыкладу, каштуе 8 злотых. Прадаўшы ў месяц нават і сто экземпляраў „Нівы", прадавец папаўняе выручку ўсяго ледзь на 800 зл. Гэта, на жаль, зусім нязначная часцінка яго месячнага тавараабароту.

Значыць, павышэння продажу „Нівы" трэба шукаць перш за ўсё ў прыхільнасці для яе прадаўцоў у кіёсках „Рух" і гаспадыняў у вясковых клубах гэтага прадпрыемства. Прадавец, прыхільны „Ніве", які сам ахвотна чытае наш часопіс, без сораму запрапануе яго купіць сваім знаёмым і незна-

(Працяг на стар. 4)

## У ЗМАГАННІ СА ЗЛОМ

Многія людзі занядбоўваюць свае абавязкі, парушаюць лад, парадак і дысцыпліну працы. Такія іх паводзіны выклікаюць паніжэнне вытворчага і арганізацыйнага ўзроўню ўстановы, у якой яны працуюць. І таму неабходны кантроль, неабходны пакаранні, якія б спынілі людскую абыякавасць, а часам камбінатарства і лёгкадумнасць.

У Ваяводскім упраўленні ў Беластоку ёсць аддзел кантролю, які ад імя ваяводы каардынуе працай усіх адзінак, створаных для такога дзеяння, у тым ліку і адзінак спецыялістычных і прафесіянальных, да якіх належаць: (апрача аддзелаў ВУ) Дзяржаўная інспекцыя гандлю, Дзяржаўная інспекцыя працы, Дзяржаўная інспекцыя скупкі і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі, Дзяржаўная тэхнічная інспекцыя сельскай гаспадаркі, Ваяводская санітарна-эпідэміялагічная інспекцыя, Ветэрынарна-санітарная інспекцыя і Ваяводская пажарная каманда.

Дырэктарам аддзела кантролю ВУ ў Беластоку — мгр Базыль Гулька, ён расказвае:

— У 1984 годзе шмат часу было прысвечана справам рэалізацыі ўказанняў Галоўнай раённай інспекцыі, якая праведзена была ў сакавіку. Наш аддзел арганізаваў 10 комплексных кантроляў. Вынікам было 809 кантрольных указанняў. 58 чалавекам прад'яўлены былі сур'ёзныя персанальныя закіды, а ў тым ліку ў адносінах да 41 чалавека вынесены прапановы адносна пакарання і адклікання з пасадаў, якія яны займаюць. 60 чалавек атрымала грашовыя пакаранні на агульную суму 84.300 зл. А падчас кантролю ў гміне Янаў пакараны штрафамі 10 чалавек на суму 34 тыс. зл.

— А за што гэтыя пакаранні, якога характару былі занядбанні? — запытаў я ў дырэктара.

— Інспектарамі Ваяводскага ўпраўлення і адзінкамі спецыялістычнага кантролю было выяўлена многа няправільнага ў даверанай працы. Напрыклад, у Лапах, Харошчы і Заблудаве тэхнічны стан жыллёвых і гаспадарчых будынкаў быў вельмі дрэнны і гэтай справе прысвячалі недастаткова ўвагі — нетэрмінова ліквідаваліся аварыі і праводзіліся рамонты, быў поўны беспарадак на лесвічных клетках, панадворках і сметніках.

Выяўлены быў недахоп парадку ў гаспадарнасці ў транспартных базах ГС у Харошчы, Крэйдавым прадпрыемстве ў Мельніку, у спулдзельні інвалідаў „Вольнасць" і ў базе ГС у Драгічыне, у сельскагаспадарчым прадпрыемстве ПГР у Бобры Вялікай і Янове.

Ваяводская раённая інспекцыя сцвердзіла неадпаведнае карыстанне сметнікамі, якія знаходзяцца пры дарогах у Харошчы, побач прыватных уладанняў у Лапах і побач прадпрыемства „Бакуціль" у Бабіках.

У Янове ж і Драгічыне была, можна сказаць, недарэчная эксплуатацыя водаправодаў, нешанаванне вады.

(Працяг на стар. 5)

**НА МЯЖЫ**

# АБ АДЗІНОЦТВЕ І ДЗЕЦЯХ (II)

Трэба, аднак, сказаць, што далёка не ўсе дзеці паступаюць так груба і нахальна. Многія выбіраюць зусім іншую тактыку. Напрыклад, некаторыя з іх, едучы да бацькоў, апранаюць самую горшую вопратку з той мэтай, каб расчуліць старэчаў сваім „убоствам“ і каб тыя сунулі некалькі дзесяткаў тысяч для „голай“ дачкі ці „абдзёртага“ сына. Яшчэ часцей прымяняецца многімі маладымі людзьмі прыём пазыкі. Такія дзеці гавораць старым, што маюць вельмі амбітныя намеры і планы, што будуюць дом, у якім будуць трымаць кватарантаў, або адкрываюць нейкую майстэрню, якая будзе даваць ім мільённыя даходы, і што ў сувязі з гэтым у будучым яны без цяжкасцей звернуць бацькам пазычаныя грошы, нават два разы больш, чым узялі.

Ёсць і іншыя спосабы. Напрыклад, сын, які заўсёды прыязджаў да бацькоў уласнай машынай, раптам прыязджае забітым да берагоў пасажырамі аўтобусам.

— Чаму гэта не ўласнай машынай? — пытаюць занепакоеныя бацькі. — Можа, не дай Бог, укралі?

— Не, не ўкралі, — адказвае сын, — але папсавалася.

І тут вылічвае ён штук дзесяць такіх дзіўных для бацькоў дэталяў як: карбюратары, карданы.

— Дык чаму ж не купіш? — пытае здзіўлены бацька.

— А за што куплю? Ледзьве на пражыццё хапае, такая дарагавізна пайшла! — адказвае сын.

— А колькі гэта каштавала б? — асцярожна пытае бацька.

— Сорак восем тысяч дзевяцьсот! — рэжа сын, ведаючы, што гэтыя восем і дзевяцьсот прыдасць яго словам абсалютную верагоднасць.

Бацька ахае і махае рукой, аднак забыць аб справе не можа. Доўга чухае шыю, раіцца з жонкай. Разважаюць падрабязна справу. Шкада старым сына і яшчэ больш шкада ўнукаў, якія мусяць таўчыся ў аўтобусе. Даходзіць і іншы момант: гонар! Як жа гэта так! Прыязджаў сын на працягу некалькіх гадоў уласнай машынай і міла было паглядзець, як уязджае на панадворак. А яшчэ прыямней старым, калі сын пасадзіць іх у машыну і туды і сюды правязе па вёсцы некалькі разоў. Ну і ўсё гэта мела б прапасці?! Дык што рабіць? Трэба выбраць грошыкі з ашчаднай кніжкі і выцягнуць з кадушкі са збожжам, і з панчохі, а можа і крышку пазычыць у суседа і даць з болем сэрца дарагім дзеткам. І як жа радасна, калі ўжо ў наступную суботу сын з усёй сям'ёй зноў прыпрэ хутканогім цудам — уласнай машынай.

Старому, дзякуй Богу, і ў галаву не прыйшло, што машына ўвогуле не была папсаванай, што была на поўным ходзе. Сыночак жа, ведаючы слабасць старых, ужыў нармальнага ашуканства. А тыя амаль пяцьдзесят тысяч яму неабходныя на летні адпачынак у Балгарыі далі. Хаця на калядны і абяцаў ён бацькам, што гэтым летам абавязкова прыедзе ў вёску, каб памагчы пры сене і збожжы. Аднак станецца па-другому. Тады, калі бацькі будуць пацець на лузе і на полі, сын з нявесткай будуць пацець на чорнаморскім узбярэжжы. Аднак гэта не значыць, што сын і яго жонка забылі зусім пра старых. Не забылі — пакінулі ім на ўсё лета сваіх дзетак, а вядома, што ўнукі — гэта для старых крыніца радасці і шчасця.

**Алесь Барскі**

# ВЫГАДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

(Працяг са стар. 1)

не араў савецкі трактар „Уладзімірац“ або „Беларусь“ ці якога плёну не павышалі б фосфарныя ўгнаенні з-пад паўночнага Мурманска, або калійная (патасовая) соль з палескага Салігорска. І тое ж у нашых савецкіх братоў — узорыстыя дываны з „Каваpaў“ і „Агнеллі“, прыгожая мэбля Вышкова і Гайнаўкі красуюцца ў кватэрах і ў суседнім Брэсце і ў далёкім Свярдлоўску, нашыя тканіны, касцюмы і іншую вопратку нават самыя патрабавальныя савецкія модніцы і моднікі лічаць шыкарнымі і гэтыя тавары не залежваюцца на паліцах крамаў. Вырабы польскай суднабудаўнічай прамысловасці — дасканалыя караблі — пад савецкім сцягам баразьдзяць усе моры і акіяны свету, а на здабытым нашымі гарнякамі вугалі працуе прамысловасць і абаграванне Латвіі, Літвы Беларусі. Проста немагчыма пералічыць усё тое, чым абменьваюцца і ў якіх дзялянках супрацоўнічаюць Народная Польшча і Савецкі Саюз. Бо не толькі ў матэрыяльных справах. Не меней важныя ад іх навуковыя адкрыцці, тэхнічныя распрацоўкі, культурныя каштоўнасці, якіх немагчыма пералічыць у мільярдах штук ці сотнях мільёнаў тон, але якія складаюць фундамент паспяховага гаспадарчага і культурнага развіцця нашых краін. Бо польска-савецкае гаспадарчае супрацоўніцтва мела, мае і будзе мець надзвычай важнае значэнне перш за ўсё таму, што яно служыць узаемнай падтрымцы і дапамозе, садзейнічае ўзаемнаму ўзбагачэнню і развіццю, яно — супрацоўніцтва росту нашых краін.

І яшчэ адна вельмі важная і надта ж блізкая нашым сэрцам заметка. Амаль ва ўсіх дзялянках абмену паміж Польшчай і Савецкім Саюзам важнае месца займаюць Беларусь і Беласточчына. Гэта кідаецца ў вочы не толькі магутнымі грузавікамі „МАЗ“ ці ўзорыстымі тканінамі „Фастаў“, мінскімі электронна-вылічальнымі машынамі ці прыладамі беластоцкіх „Ухвытаў“, але вельмі плённым супрацоўніцтвам па абмену навуковымі і тэхнічнымі дасягненнямі паміж Беларускім політэхнічным інстытутам у Мінску і Беластоцкай політэхнікай, шклозаводам „Нёман“ і гутай шкла „Беласток“ і многімі іншымі навуковымі, прамысловымі і сельскагаспадарчымі ўстановамі і прадпрыемствамі.

Варта толькі пахвалы ініцыятыва два павільёны прысвяціць двум нашым найбліжэйшым суседкам — Гродзеншчыне і Літве. Вядома, у адным памяшчэнні немагчыма паказаць нават самае лепшае, што прадукуецца на фабрыках і заводах Гродзенскай вобласці, што вырошчваецца на яе палях, гадуецца ў фермах, ці што збудавана ў гарадах, пасёлках, сёлах. Але нават з тых некалькіх соцень экспанатаў з добрым густам, эстэтычна прадстаўленых у ім відаць, што сёння Гродзеншчына — гэта рэгіён, у якім стала развіваецца гаспадарка, расце дабрабыт і культура народа. Каб пераканацца ў гэтым, даволі глянуць на элегантныя тканіны Гродзенскага тонкасуконнага камбіната, з асаблівай стараннасцю і ўмельствам выкананыя вырабы народнага промыслу, фатаграмы прамысловых карпусоў прамысловага аб'яднання „Азот“, сучасных жыллёвых кварталаў Гродна, вілы ў калгасах і саўгасах, урэшце — апетычныя вырабы харчовай прамысловасці.

Так, значыць, мы не толькі суседнічаем праз мяжу, але і з вялікай карысцю для абодвух бакоў інтэнсіўна супрацоўнічаем і гэтае супрацоўніцтва прыносіць багаты плён.

**М. Гайдук**
Фота аўтара



**Новая мадэль „Нівы“ якая карыстаецца ў нас вялікай папулярнасцю.**

**НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН**

# НАШЧАДКІ МІНАТАЎРА

Як сведчыць міф, у старадаўнія часы жыў на востраве Крыт Мінатаўр — чалавека-бык, страшыдла са страшыдлаў. Сядзеў ён у падземным лабірынце, куды яму людзі, каб выратаваць сябе ад поўнага спусташэння і смерці, пасылалі штогод у ахвяру па сем самых прыгожых юнакоў і дзяўчат.

Міф гэты, які падабаўся старажытным грэкам, успомніўся не выпадкова. На тэрыторыі Белага дома размешчаны ракеты класа „зямля-паветра“. На варотах устаноўлена сяміметровая стальная рашотка. Да таго ж спачатку Капіталійскі пагорак, дзе знаходзіцца рэзідэнцыя прэзідэнта, забарыкадавалі грузавікамі, абкладзенымі мяшкамі з пяском. Затым гэты дзедаўскі спосаб здаўся, відаць, занадта ненадзейным, і вакол Белага дома пачалі ўзводзіць у некалькі радоў тоўстыя бетонныя сцены. Утварыўся сапраўдны лабірынт, прабрацца праз які вельмі складана. Усё цюцелька ў цюцельку, як у міфалагічнага Мінатаўра!

Толькі цяпер апетыт у яго заакіянскіх паслядоўнікаў намнога большы. Паводле самых сціплых падлікаў, за дзвесце год свайго існавання ЗША распалілі дзвесце войнаў. Лік ахвяр у іх ішоў не на адзінкі, а на тысячы і нават сотні тысяч. Прычым, нават тады, калі замаўкалі гарматы. Насёрбаўшыся ўдосталь крыві, каланіяльная пачвара не адступалася — абірала да ніткі залежныя слабаразвітыя краіны. Калі ж які-небудзь народ асмельваўся паўстаць на абарону сваіх законных правоў, зноў ракою лілася кроў.

Ёсць, аднак, у двухногіх мінатаўраў і адно істотнае адрозненне ад чалавека-быка. Той пажыраў сваю крывавую трапезу моўчкі, не хаваючы вострых клыкоў. А гэтыя на ўвесь свет лямантуюць аб сваім уяўным міралюбстве.

Заакіянскі мінатаўр, знаходзячыся ў ваяўнічым экстазе, патрабуе, каб не толькі суседнія, залежныя ад яго краіны, але і ўсе дзяржавы планеты слалі яму багатую даніну, каб чалавецтва жыло па яго пячорных законах.

„Ну, а калі ўсё ж народы адмовяцца прыняць гэты данайскі дар?“ — пацікавіліся рэпарцёры. І былы акцёр, якому не ўдалося праславіцца на падмостках сцэны, прысвоіў сабе ролю прарока —

(Працяг на стар. 6)

БЕЛАРУСКІЯ ЛЮДЗІ

# КНІГА ЖЫЦЦЯ ДЗЕДА АСТАПЧУКА



Начальнік гміны Іван Тапалянскі ўручае Івану Астапчуку дыплом.

Сто гадоў таму, 18 красавіка 1885 года, у вёсцы Белкі ў цяперашняй гміне Нарва, у сялянскай сям'і нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Іванам. У кнізе жыцця Івану Астапчуку было запісана доўгае жыццё.

Цяпер стогадовы, рухлівы дзед Іван Астапчук сустракае нас на парозе сваёй хаты, моцна за яго малодшай, і ветліва запрашае зайсці. Дочкі — Насця і Зіна — выпраталі, вымылі хату да апошняй пылінкі, падрыхтавалі пачастунак, з якога найсмачнейшай аказалася бульбяная кішка.

Гміна ў Нарве з вялікай пашанай адносіцца да сваіх грамадзян і да важных падзей у іх жыцці. І вельмі ўрачыстым і хвалюючым быў момант, калі начальнік гміны Іван Тапалянскі ў суправаджэнні кіраўніка УСЦ Галены Асташэўскай і яе намесніка Ірыны Koськa прывезлі і ўручылі І. Астапчуку кветкі, дыплом і гасцінец. У сініх вачах дзедкі круціліся слёзы і ён усхвалявана, быццам не верачы, паўтараў: „І то ўсё для мяне?"

Нам вельмі прыемна адзначыць, што, уручаючы падарункі, усе трое — начальства гміны Нарва гаварылі на беларускай мове. А начальнік сам пажадаў дзеду: „Многая лета вам,здароўя і шчасця", пацісную па-сяброўску моцна дзедаву руку.

Стогадовы юбілей Івана Астапчука папярэдзіла страшная трагедыя — памёр яго другі сын Васіль. Дзед зняў са сцяны фатаграфію ў маленькай рамачцы і, паказваючы яе. сказаў: „На Кршчэнне памёр ён, мой Васіль. Яму было 52 гады. І чаму то так — мне два разы па пяцьдзесят і я жыву, а ён памёр?"

Дзед хваліцца ўсімі сваімі дзяцьмі. Таксама і Васем, што быў добрым сынам. Прыязджаў часта, рубаў дровы, брыў старога бацьку. Уся цяжэйшая мужчынская работа была яго сыноўскім абавязкам. Старэйшы сын Грыша памёр у 1972 годзе.

Жывуць дзве дачкі, якія бацьку любяць і ганарацца ім. Наведваюць і памагаюць. Асабліва моцна з бацькам звязана старэйшая — Насця Спепанюк. Насця — цяпер жыхарка Беластока, але замуж выйшла ў Трасцянку на гаспадарку і доўгія гады там пражыла. Гаспадарыла добра і разгарнула вельмі шырокую грамадскую дзейнасць: была старшынёй гуртка ТППР, атрымала за ўзнагароду экскурсію ў СССР і пабывала ў Савецкім Саюзе. Была гмінная радная, была старасціхай гмінных дажынкаў, сарганізавала і вяла гуртoк КГВ. Жанчыны гэтага гуртка стварылі калектыў, спявалі беларускія песні, ставілі сцэнкі, прымалі ўдзел у конкурсах беларускіх. Пані Насця расказвае, што неадлучным яе памочнікам у гэтай працы была Анна Стахвіюк з Трасцянкі — вядомая ў свой час спявачка на конкурсах „Беларуская песня".

Дзед Іван быў вельмі шчаслівы, што прыехалі блізкія і госці. А прыехала Насця з сынамі, ужо дарослымі хлопцамі, і Зіна з мужам. Балюча адчуў дзядок непрысутнасць нявесткі, Васілёвай жонкі. „Каб жыў, было б інакш, а то бачыце, нават унучкі не пусціла, як жа ж так можна?" — скардзіўся ён.

Іван Астапчук у Белках пражыў усе свае сто гадоў. Нават у бежанства не паспеў выехаць, хоць усе іншыя паехалі. Белкі былі спалены, і Іван жыў у адной з трох уцалелых хатаў у Трасцянцы. І там пазнаёміўся са сваёй жонкай Марыяй, родам з Амельянюкоў. Жонка дзедава памерла дзесяць гадоў таму, маючы 85 гадоў. А яго бацька памёр на 98 годзе жыцця.

Цікавая была жаніцьба Івана Астапчука з Марыяй. Людзей „за першага немца" засталося ў вёсцы мала і ўвогуле не было ні дзе ў ваколіцы бацюшкі. Таму фактычна жыццё як бы замерла. Людзі чакалі... І вось пачулі ў Трасцянцы, што ў Белавеж з бежанства вярнуўся бацюшка. Даведаўшыся пра гэта, Іван Астапчук хутчэй запрог каня, пасадзіў сваю нарачоную на фурманку і гайда ў Белавеж, каб звянчацца. Інакш жыццё людзі сабе тады і не ўяўлялі. У сераду пасля Сёмухі белавежскі бацюшка звянчаў 30 пар, сярод якіх былі маладажоны — Іван і Марыя Астапчукі. Але дзедка помніць, што тры дні раней на Сёмуху той жа белавежскі бацюшка звянчаў 70 пар! Ехалі людзі адусюль у Белавеж ды вянчаліся ў тамтэйшага бацюшкі. Так пачынала радзіцца маладое жыццё. Так то яно калісьці было. А было гэта ў 1918 годзе.

Астапчукі мелі чацвёра дзяцей: два сыны і дзве дачкі. А цяпер у дзеда Івана 9 унукаў і 8 праўнукаў.

Іван Астапчук вялікі любіцель кніг. Мае старыя кніжкі, друкаваныя ў XIX стагоддзі.

Пахваліўся нам дзед Іван найперш „задачнікам". Ён паспешліва выбег у другі пакой і прынёс тоўстую, вельмі добра захаваную кнігу пад загалоўкам „Собрание арифметических задач, Москва 1912 год".

Паказваючы на канцы кніжкі на „Ответы и решения" голасна захапляўся мудрасцю складальнікаў гэтага задачніка, якія рашылі ўсе 3814 задач. Якраз рашэнне стольких задач найбольш дзеда хвалявала. „Вось дзе былі разумныя людзі, стольki задач рашылі!" Солтыс Аляксандр Раеўскі спытаў:

— „А вы, дзеду, хоць адну задачу рашылі?

— Хто? я? — перапытаў дзядуля са здзіўленнем. — Я ж не вучоны.

Вельмі часта даводзіцца сустракаць сярод нашых беларускіх людзей старэйшага пакалення глыбокую пашану і высокае амаль каленапакланенне перад мудрасцю навукі. Гэта вельмі цікавая з'ява: беларусы любяць і паважаюць навуку і вучоных. І цікава, што ў век космасу дзеду Івану неапраўяргальным фундаментам вялікай вучонасці застаўся яго задачнік.

(Працяг на стар. 6)



Сямейны здымак дзядулі з дочкамі Зінай (злева) і Насцяй. Прысеў ўнукі — Ваня і Віця.

# КНІГА АБ ГРАМАДЗЕ

Кніга завецца „Заходняя Беларусь на лаве падсудных". Хачу расказаць аб ёй не толькі таму, што гэта крыніца, да якой часта звяртаюся. І не толькі таму, што ў гэтым годзе спаўняецца роўна 60 гадоў ад нараджэння Грамады. Хачу пазнаёміць з ёй тых нашых чытачоў, якія сур'ёзна цікавяцца справамі Грамады і пераканаць іх, каб асабіста пазнаёміліся з кніжкай, бо яна — вельмі цікавая і важная крыніца.

Гэта зборнік. Некалькі аўтараў выступаюць у ім пад псеўданімамі. Але апрача гэтых аўтараў (і, здаецца, галоўным чынам) складальнікі гэтай кніжкі застаюцца невядомымі. Хачу падзяліцца сваімі меркаваннямі наконт гэтай таямніцы.

Першы раздзел кнігі — „Па слядах Рамaнавых". Аўтар яго падпісаўся С. Традыцыя (або С. Б. Традыцыя). Гэта псеўданім вядомага дзеяча КПП Станіслава Будзінскага, які ў той час быў цесна звязаны з апаратам ЦК КПЗБ у Мінску, асабліва з яго замежнай рэдакцыяй.

Гэты раздзел мае характар уступнага артыкула аб становішчы ў Заходняй Беларусі і дае таксама тэарэтычную ацэнку Грамады ў такой форме, у якой яна тады панавала ў кіруючых сферах КПП і КПЗБ. Але не ўсіх! Такой была ацэнка той групы, якая называлася „меншасць". Разумныя людзі аб гэтай групе гаварылі, што яе тэарэтыкі разважаюць па прынцыпу „лявей здаровага розуму". Але такой у той час была ацэнка Грамады з боку ЦК КПЗБ.

Другі раздзел — „На працэсе". Аўтар яго падпісаўся псеўданімам Язэп Паўлоўскі. Не адзін, хто карыстаўся кнігай, ламаў сабе галаву над тым, кім мог быць гэты Паўлоўскі. Рэдакцыя ж, са свайго боку, інфармуе чытача, што гэты раздзел напісаны рэпарцёрам-журналістам, удзельнікам працэсу. Раздзел складаецца з некалькіх частак. Першую хутчэй за ўсё падрыхтавала рэдакцыя. Але ўжо другая частка мае ўсе рысы рэпартажа і з'яўляецца яркай карцінай таго, што адбывалася ў зале суда. Аўтар уводзіць чытача ў атмасферу працэсу. Дае вобразы сведкаў, абвінавачаных. Паводле слоў аўтара, у зале адбываецца вырашэнне адной гістарычнай цяжбы.

Кім жа быў аўтар? Часткова гэтую загадку дапамагла вырашыць жонка Браніслава Тарашкевіча — Ніна Аляксандраўна Тарашкевіч. Калісьці даўно, калі я яе спытала, якім чынам яна ў Маскве пазнаёмілася з Тарашкевічам, у адказ я пачула імя Яўгенія Брацiна, вядомага ў Маскве журналіста „Известий". Яго Ніна Аляксандраўна ведала яшчэ да прыезду Тарашкевіча. Дык вось гэты Брацін яе з Тарашкевічам пазнаёміў. Прадстаўляючы яго Ніне Аляксаўдраўне, дадаў: „Тарашкевіча ведаю яшчэ з віленскага працэсу Грамады, у якім я ў 1928 годзе ўдзельнічаў як карэспандэнт газеты „Известия". У Маскве сустрэліся выпадкова. Можа гэты Брацін і ёсць Язэп Паўлоўскі? Аднак паручыцца, што на працэсе быў толькі адзін рэпарцёр, нельга. Напэўна было больш такіх, чыімі запіскамі карысталіся складальнікі кнігі. Аднак адна дэталь схіляе да падтрымкі такога меркавання. У 1928 годзе ў „Известиях" паявіўся артыкул аб працэсе Грамады (у сакавіку пад загалоўкам „Гістарычная цяжба"). Аўтарам яе быў Яўгеній Брацін. Як бачым, аўтар ужывае той самы моўны зварот, што і ў другім раздзеле кнігі. Мне гэта адразу кінулася ў вочы. Можа таму, што ў матэрыялах аб Грамадзе неяк больш такога словазвароту я не сустракала. Таму лічу ўсё ж, што аўтарам раздзела „На працэсе" галоўным чынам з'яўляецца Яўгеній Брацін.

Аўтар III раздзела — „Судовае следства і дзеючыя асобы" прадстаўляецца нам пад псеўданімам Лехіта, а рэдакцыя ад сябе дадае, што гэты раздзел пісаў польскі адвакат, які ўдзельнічаў у працэсе. Адразу адчуваецца, што пісаў гэты раздзел спецыяліст. Тут знаходзім характарыстыку галоўных сведкаў абвінавачвання (правакатараў). Тут знаёмімся з паліцыйнымі метадамі падрыхтоўкі працэсу з усім яе механізмам. Адным словам, даведваемся пра ўсю паднаготную працэсу.

Гэты раздзел мог напісаць па просьбе партыі Т. Дурач — адзіны камуністычны дзеяч сярод усёй плеяды адвакатаў. Але паручыцца за гэта цяжка. Гэты тэкст мог напісаць таксама не адзін віленскі польскі адвакат і не абавязкова партыйны, з якімі сем'і абвінавачаных былі ў цесным кантакце

Раздзел IV і апошні. Яго загаловак „Выступленні на судзе і прысуд" У ім знаходзім выступленні на судзе пракурора Р. Раузэ, адвакатаў Я. Смяроўскага, К. Петрусевіча, Т. Дурача. У гэтых выступленнях шмат праўды аб тым, чым сапраўды была Грамада. Тут знаходзім таксама (у скарачэнні) „апошнія слова" на судзе Браніслава Тарашкевіча, Сымона Рака-Міхайлоўскага, Пятра Мятлы, Паўла Валошына. Кніга канчаецца трошкі скарочаным прысудам і яго шырокай маты-

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 1)

## У ЗМАГАННІ СА ЗЛОМ

Найбольш недахопаў выступіла ў СКР і РСП, а таксама ў сельскагаспадарчых вытворчых установах. Амаль усюды няма належнага парадку на плячах, дзе стаяць машыны і трактары, балаган як у сацыяльных памяшканнях, так і ў канторах. Незабяспечана ад пакражы і пажару маёмасць. Санітарны стан таксама дрэнны. Але найгорш выглядае справа з дысцыплінай працы ў шырокім яе разуменні, напрыклад, старажоў дык часта наогул няма на рабоце (Прадпрыемства электрычнай сеці ў Лапах, РСП у Новым Двары), а некаторыя з іх нярэдка бываюць нецвярозыя (СКР і ГС у Тыкоціне).

У многіх мясцовасцях сцверджаны былі лёгкі доступ да пячацяў, незамкнутыя шафы з дакументамі, ваду ў электрычнай праводцы, дратаванне бяспечнікаў, лёгкі доступ да размеркавальных пультаў.

І, як правіла, усюды, дзе праводзіў кантроль ВІТ, былі знішчаныя аўтобусныя прыпынкі, не хапала інфармацыйных табліц прыездаў і ад'ездаў аўтобусаў.

Прыведзеныя дырэктарам факты з мінулага года сведчаць аб недахопе асноўнай чалавечай дбайнасці, аб поўнай адсутнасці адказнасці за давераную працу і справу. Гэтыя факты сведчаць, што і далей востры кантроль неабходны.

Размаўляў **Міхась Хмялеўскі**

## ЛІГА ЖАНЧЫН У БЕЛЬСКУ

Да лігі ў Бельску належыць 800 жанчын. Яны пастаянна праводзяць сустрэчы, гутаркі, даклады. Старшынёй Лігі жанчын у Бельску — Яніна Сяргейчык, а сакратаром — Яўгіння Дзмітрук.

Бельскі аддзел ЛПЖ правёў латарэю „Дар людскіх рук“. Сабралі 7 тыс. зл. і перадалі гэтыя грошы на Помнік маці-полькі.

У студзені для бельскіх жанчын спяваў Ежы Міхотэк, а капітан Тадэвуш Сяргейчык расказаў аб жанчынах, якія змагаліся і загінулі ў вайну.

Праводзяцца юрыдычныя кансультацыі, парады дае суддзя Данута Конрад. За мінулы год 51 жанчына скарыстала з такіх парад.

Бельская жаночая арганізацыя дзейнічае ад 1947 года і яна — арганізацыя патрэбная і заслужаная.

**Андрэй Гаўрылюк**



Вярнуліся. Фота Юркі Трачука.

# БЕЛАВЕЖСКАЕ ЗЕМЛЯРОБСТВА

У гміне Белавежа — 1.390 га зямлі, на якой вядзецца сельская гаспадарка. Зямля гэта належыць 450 гаспадарам. Паверхня 76 прац. гаспадарак не перавышае 3 га.

Белавежскія земляробы перш за ўсё сеюць збожжа і садзяць бульбу. У 1984 г. збожжа займала 414 га, а бульба — 217 га (на жаль, яна вымакла аж на 37 га; за яе ПЗУ выплаціў кампенсацыю на суму 2 млн 144 тыс. зл.). На лугі адпушчана 408 га. Плёны былі невысокія. Збожжа з 1 гектара збіралі 22,3 цэнтнера, бульбы — 142 цэнтнеры і толькі сена — 67,3 цэнтнера.

У 1984 г. гаспадары трымалі 504 штукі быдла, у тым ліку 301 карову. Пагалоўе свінней складала 825 штук (з чаго 83 штукі — гэта маладыя свінаматкі), авечак — 626 штук. У параўнанні з 1983 годам быдла паменшылася на 4,5 прац., а свінней — на 2,6 прац. Адначасова кароў павялічылася на 2,7 прац., а свінаматак — на 6,4 прац. Пастаянна расце лік авечак. За апошні год ён дасягнуў 37 прац.

У 1984 г. гмінны кааператыў „Сялянская самапомач“ скупіў 9 тон жывой вагі свінней і 46 тон ялавічыны. Збожжа — 13,6 тоны (колькасць крыху смешная, калі ўзяць пад увагу, што Белавежа патрабуе ў год 250-300 тон збожжа), бульбы — 6 тон (для прыкладу, у 1983 г. — 94,3 тоны). План скупкі выкананы ў сярэднім у 48,5 прац. Пахваліцца ж можа гміна толькі пастаўкай малака. У 1984 г. скуплена яго 524 тыс. літраў, г.зн. на 64,3 прац. больш, чым у 1983 г.

Па традыцыі ўжо белавежскія земляробы не выкупляюць штучнага ўгнаення. На канец 1984 г. рэалізавалі яны накінутыя ім надзелы ў 15 прац.

У мінулым годзе белавежцы купілі 8 трактараў, 2 бульбакапалкі і 2 снопавязалкі.

**П. Байко**

што такое малое зацікаўленне праяўляецца да беларускага штотыднёвіка. І тую „Ніву“, што была з календаром, купілі тут усяго ледзь 80 экземпляраў.

*

Едзем у Гайнаўку. Гайнаўка заўсёды была апорай для беларускай дзейнасці і для існавання „Нівы“. Цяпер у межах Гайнаўскай экспедыцыі прадпрыемства „Рух“ (значыць у межах даўнейшага Гайнаўскага павета) праз паштовую падпіску і кіёскі „Рух“ ды вясковыя клубы кожны тыдзень распаўсюджваецца сярод беларускага насельніцтва амаль 2 тысячы экземпляраў „Нівы“. Кіраўніком гэтай экспедыцыі Пётр Кардаш. Ён кажа, што ў распаўсюджванні „Нівы“ на Гайнаўшчыне найбольш заслужыліся Зінаіда Міхалюк, якая займаецца раздзелам прэсы на паасобныя пункты продажу, і Галена Кандрацюк, якая кіруе развозкай прэсы.

*

**Валянцін Авер заводзіць гутарку з прадаўшчыцай кіёска „Рух“ № 81, што на вуліцы** М. Бучка. Гэта ў самым цэнтры Гайнаўкі. Анна Тамашук кажа, што да серады прадала ўжо нейкіх 20 экземпляраў „Нівы“. Атрымала да продажу — 40.

— Рэшту давядзецца аддаць назад, — сцвярджае яна, — бо хто да серады не купіў гэтай газеты, дык ужо не купіць.

Валянціна Шэпель „стаіць“ у кіёску на вул. Вызвалення. Гэта па-суседску з Гайнаўскім беларускім ліцэем. У Гайнаўскай экспедыцыі прадпрыемства „Рух“ нам сказалі, што гэты ліцэй у мінулым годзе падпісваўся на 250 экземпляраў „Нівы“, але ў гэтым школьным годзе ў Гайнаўскі ліцэй ідзе толькі адна „Ніва“.

У кіёску „па-суседску“ пані Валя таксама не заўважыла, каб вучні з беларускага ліцэя зачаста набывалі „Ніву“.

*

У Раённым асяродку партыйнай працы В. Авера прымаюць кіраўнік гэтага асяродка — Ян Войцюк і яго намеснік — Эдвард Лясота. Яны абяцаюць пагутарыць з дырэктарам ліцэя А. Іванюком і ўвогуле на сваіх партыйных сходах будуць напамінаць аб патрэбе пастаяннай падпіскі на „Ніву“ і яе пакупкі ў кіёсках „Рух“.

— Бачыш, і па партыйнай лініі таксама можна шмат чаго дабіцца для „Нівы“, — з гордасцю сцвердзіў В. Авер, які таксама шмат гадоў са свайго жыцця прысвяціў працы ў партыйным апараце.

*

Адпраўляемся ў Курашава. Кіраўнік Гайнаўскай экспедыцыі прадпрыемства „Рух“ Пётр Кардаш аўтарытэтна сцвердзіў, што менавіта ў Курашаве жыве і працуе найлепшая на Гайнаўшчыне гаспадыня вясковага клуба „Рух“. Гэта Ніна Грыгарук — вядомая таксама як дзеяч гурткоў вясковых гаспадынь і беларускага аматарскага руху.

— Ніва“ ў мяне на першым месцы! „Ніва“ і „Газета Вспулчэсна“, — з гордасцю гаворыць яна. — Прадаю цяпер 30 штук „Нівы“, а будзе яшчэ два разы столькі.

**Віктар Рудчык**

## З маёй званіцы

### ЯКІ КРЫЗІС?

Ад 1981 г. пануе ў нас выдуманы крызіс. За час гэтага крызісу людзі накуплялі ўсяго столькі, як ніколі дагэтуль. Тысячы трактараў і іншых сельскагаспадарчых машын, тысячы аўтамабіляў — цяжкіх і лёгкіх! Многа камбайнаў. І нават „Вістулі“ купляць ужо не хочуць, давай ім „Бізона“. Да крызісу ў нядзелю каля царквы або касцёла стаяла 5-6 аўтамашын, а цяпер стаіць 40-50.

У крамах раней тэлевізар, пральку, халадзільнік куплялі ў растэрміноўку, а цяпер яны падаражэлі ў 3-4 разы і толькі давай (дзе яно і дзяецца?). Жанчыны ходзяць у дарагіх кажухах з лісінымі каўнярамі і кураць дарагія папяросы.

Мільянераў колькі стала за час крызісу! У Беластоку адзін гаспадар купіў вілу за 9 мільёнаў зл.

Але ўзяць іголкі, ніткі, ручнікі, шалікі, бялізну — гэтага не можна, калі трэба, купіць. Ці то ў нас няма каму гэтага зрабіць? Ці матэрыялаў няма? Ёсць. Толькі парадку няма. Пануе паўсюдны балаган і яго назвалі крызісам. У нас хочуць мала рабіць, а многа зарабіць і з гэтым трэба як найхутчэй канчаць, тады і крызісу не стане.

**Кум**

## КУЛЬТУРА НА ВЁСЦЫ

Якая шырокая тэма! І трэба сказаць, у апошні час мала яна знаходзіць месца ў газетах. Можна б увогуле запытаць, ці на вёсках вядзецца культурная дзейнасць?

У многіх вёсках нашых ёсць клубы „Рух“. Моладзь заходзіць туды вечарамі. І пераважна іграе ў карты, часта бывае, што іграюць „у ачко“ на грошы. Калі па вёсках былі школы і маладыя настаўнікі, вясковая моладзь гарнулася да іх, бо ў школе, з дапамогай настаўнікаў, можна было нешта культурнае і культурна сарганізаваць, культуры павучыцца. Калі ж меншыя школы паліквідавалі ў сямідзесятыя гады і парабілі гмінныя школы, культурная дзейнасць у вёсках знікла.

Возьмем цяпер яшчэ пад разварагу чытальніцтва ў вёсках. У маёй ваколіцы, у Трасцянцы ёсць філіял гміннай бібліятэкі. Там штатны бібліятэкар, які загадвае філіялам і 6 бібліятэчнымі пунктамі на вёсках: у Пухлах, Сацах, Белках, Агародніках, Іванках і Анцутах.

Я вяду такі пункт у нашай вёсцы Белкі. У мяне шафка і кніжкі, якія раз на месяц можна абмяняць у філіяле. Нават старэйшая моладзь мала цікавіцца кніжкай і бібліятэкай. Часцей пазычаюць кніжкі школьнікі. Я падлічыў, што ў сярэднім за год адзін чытач у дзень пазычае адну кніжку. Кніжку ж яму трэба паказаць, выбраць, параіць, запісаць на картачку, выкрэсліць з картачкі і г.д. А плаціць у месяц гміна — лепш і гаварыць не варта. Такія малыя сумы выкладаецца ў нас на асвету ў вёсцы.

**М. Лук'янюк**

(Працяг са стар. 3)

## КНІГА ЖЫЦЦЯ ДЗЕДА АСТАПЧУКА

Але калі б вы заглянулі ў той задачнік, не пасмелі б смяяцца. Бо ў наш касмічны век значна менш адукаваных людзей змагло б рашыць тыя задачы, чым сто гадоў таму. Такія бываюць дзіўныя парадоксы жыцця.

У хатняй бібліятэцы дзядулі я пазычыла некалькі яго кніжак з 1893-94 гадоў выдання. А Насця, з якою мы падружылі, зайшла нядаўна ў рэдакцыю і прынесла рукапісны сшытак песень, запісаных праўдападобна рукой яе маці, пісьмом чыстапісным, прыгожым (цяпер з наймацнейшай электрычнай лямпачкай такога не знойдзеш), з усімі тымі колішнімі ерамі і яцямі. Песні рускія (урачыстыя, турэмныя, рамансы), але і песні мясцовыя, ці прыстасаваныя да мясцовасці.

Прыклады:

Ой, скоро, скоро я уеду —  
Тросцянку брошу навсегда,  
Уже я больше не приеду —  
Забудьте думать про меня.

Або:

Ой, найму я подводу —  
Сам поеду до роду.  
Пуд'езджаю под село —  
Всему роду весело.

Сярод розных пажаданняў, якія дзед Астапчук атрымаў у свае сто гадоў, мне найбольш спадабалася яго ўласнае. Нахіліўшыся да мяне, радасна сказаў: „От, каб так яшчэ за рок сустрэцца! Як думаеце, дажыву я?“ Ад гэтакай інтымнасці мне аж пад сэрцам зашчымела і, глянуўшы на яго вясёлыя і бліскучыя ад чаркі вочы, я ўпэўнена адказала: „Напэўна дажывеце!“

**Вера Леўчук**

Фота Я. Чэрнякевіч

(Працяг са стар. 2)

## НАШЧАДКІ МІНАТАЎРА

стаў трызніць пра „зоркавыя войны“, пра судны дзень, які, маўляў, вось-вось наступіць, раіў усім старанна рыхтавацца да яго.

Калі верыць старажытнаму міфу, пачвара з Крыта сядзела ў сваім лабірынце, які змайстраваў славуты майстар Дэдал, да таго часу, пакуль не прыбыў на востраў адважны Персей і не забіў яе. Праўда, і сам герой ледзь не паплаціўся жыццём. Толькі „нітка Арыядны“ дапамагла яму выбрацца на свабоду.

Як доўга будуць сеяць вакол сябе смерць вашынгтонскія маньякі? Ці зменяць калі-небудзь гаспадары Белага дома свой ядзерны рык на голас спакойнай развагі? Ці ўдасца чалавецтву пазбегнуць ядзернага апакаліпсіса і захаваць жыццё на нашай блакітнай планеце? Дакладныя адказы на гэтыя пытанні дасць толькі час. Але несумненна адно: усё больш людзей у свеце пераконваецца, што за фарысейскай маскай вашынгтонскіх міратворцаў хаваюцца небяспечныя вар'яты.

**І. А.**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

І Бога не баіцца, і людзей не стыдаецца.

І за лучыну знойдзе прычыну.

І мядзведзю кальцо ў губу запраўляюць.

Не аддасі душу чорту — не разбагацееш.

Раз гладзіць, другі раз дзярэ.

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

Спі брацік.

Голасна цікае гадзіннік. Столькі часу вісіць у цёмным вугле спальні — супакоены прысутнасцю дома тоўстага жоўтага павука і паху святаянніку, што акунуў свой шэпт у цішыню. Тык-тык-тык-так голасна -і-так-спакойна. Па-мален-ку ад-мер-ва-ю час сон-ны час воль-ны час ля-ціць муха ка-ля ву-ха тык-тык-тык спі бра-цік цік-так-так!

За акном адазваліся гусі. Зноў кагосьці нясе...

Нашы гусі. Тоўсты гусак выцягвае крывую шыю, адчувае сябе гаспадаром на панадворку. Калі я іду па дровы, мінаю яго здалёк. Уцякаю заплоццем, губячы па дарозе палены... Не, гэта было даўно. Тады я была такая малая, як ты. Хадзіла з пабіванымі, пацарапанымі на платах каленцамі, з вялікімі, як слівы, сінякамі, з травою ў валасах, з вялікай галушкай таўканіцы ў руцэ... Пахла тады святаянкай і алешнікам на грэблі. Хітры авёс шаптаў ліслівасці, шлючы паклоны выблекламу жыту. А па небе паўзлі пузатыя, каўтуністыя твары, гаварылі штосьці да сябе, крывіліся, хмурылі лысыя вачыска, з-за якіх выглядала перапалоханае сонца...

Сонца, калі быў поўдзень, замірала на хвіліну на Лізінай ліпе. Тады я раптам адчула, што мой жывот курчыцца, што ў мяне штосьці баліць у сярэдзіне. Мне вельмі хацелася ўзлезці на вершаліну ліпы і ўваткнуць палец у сонца, як у масла, і палізаць.

### ЁСЦЬ ЧАС ЛІПАЎ І СЛЁЗ

А ліпу зарэзалі. Нядаўна. Я плакала, а ты смяяўся, бо здзіўлялі цябе такія вялікія слёзы ў вачах дарослага чалавека.

А я хадзіла між павыкручванымі галінкамі ліпы, патрэсканай пярунамі, шукала слядоў лапак вясёлых шпакоў...

Калісьці навучыла я шпака свістаць песеньку. Бывала, выйду, засвішчу некалькі пачатковых тактаў, а шпак кончыць. Заўсёды канчатак фальшывіў, і то кожны раз інакш. Вось дык быў шпак!

А старая ліпа ляжала. І сонца не было. Пахла сонцам, балела сонцам, а яго не было. Я глянула ўверх. На бясхмарным небе — вісела — вялікае, круглае, з ашалелым беражком вакол. Нічым не закрывае. Зусім іншае, аж да болю чужое.

А бабулька паклікала мяне есці. Я праглынула слязу. Я пачула, што палізала сонца — м а ё сонца было ўва мне!

А ты сказаў: „Ужо пара. Ужо час“. Ты ўжо ведаеш, што гэта час. Маеш ручны гадзіннік. З секунднікам. Цікае ціхенька. Дазваляе думаць, што ты п р ы р у ч ы ў час.

**Міра Лукша**

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

Неўзабаве трыццаць гадоў будзе майго ўдзелу ў беларускім руху. Ці раз даводзілася мне за столькі часу задумацца над тым, якія мы людзі? На сваім немалым вяку пабачыў я цэлую плойму ўсякіх беларускіх патрыётаў. Праз адну толькі рэдакцыю „Нівы“ колькі прашмыгнула! З'яўляліся яны хваля за хваляй, ды прападалі ў далячынях жыцця. І ва ўсіх наглядалася адна характэрнасць, якую яшчэ Гарэцкі назваў „змучанасцю ідэйнасцяй“. Што гэта значыць? Мая маці растлумачыла б так: быць героем у языку.

У гэтай „змучанасці ідэйнасцю“ ёсць нешта трагікамічнае. Бачу тут своеасаблівы гатунак чалавека, у якім сышліся дзве якасці — інтэлігентнасць і палахлівасць. Такі, як правіла, выказвае глыбока слушныя рацыі і ўсім сэрцам жадае, каб яны збыліся, але сам, асабіста не адважыцца рукі прыкласці да таго. Такім чынам сям-там і пачалі вырастаць „шчырыя беларусы“.

„Шчыры беларус“, калі ўгледзіць кагосьці, хто, на яго думку, падыходзіць да ролі рэалізатара, тады ўшчыняе аратарства, якое нагадвае мне пленум нашага таварыства. Многа дасканалых прапаноў, якіх няма каму ажыццявіць.

### МОЦНЫЯ Ў ЯЗЫКУ

Час ад часу з'явіцца беларус-рэалізатар, які бярэцца пераўтвараць ідэі ў факты. Далейшы лёс яго наогул незайздросны. Як піць даць абступяць такога тлумком „шчырыя беларусы“, выкрыкваючы яму ўсё новыя і новыя прапановы. Збянтэжаны да самае знямогласці, адчуе сябе, бы той хорт, перад носам якога выпусцілі дзесятак зайцаў.

Класікі беларускай культуры звяртаюць увагу на яшчэ адну характэрнасць „змучаных ідэйнасцю“: магічнасць складу яго думкі, інакш кажучы — успрыманне пажаданага за сапраўднае. Пара на прыклад. Узыходжу я на трыбуну, выступаю з прамоваю, людзі слухаюць, апладзіруюць, хвалююцца. Я шчаслівы, пераканаў людзей да адзінай слушнай праўды. І ад заўтра ўсё пойдзе лепш.

Потым мінаюць дні, тыдні, месяцы і гады. А ўсё чамусьці застаецца так, як было.

Вера ў цудадзейнасць слова з'яўляецца там, дзе адсутнічае матэрыяльная моц, але ёсць ужо свядомасць неабходнасці нешта зрабіць. (У нашым выпадку выступае такая патрэба ў нацыянальным развіцці). Але мы жывем у чаканні чагосьці, а ў самім слове бачым патрэбную мацату, якой не мае, калі не стане за ім факт, падзея.

**Аляксандр Анташэвіч**

## ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ

### ДАВАЙ КАМУНІСТАЎ

Трымалі іх на панадворку ў Данавіцкага ўжо хіба другую, або трэцюю гадзіну. Дзядзька Лукаш дакладна гэтага не ведаў і толькі па сонцы меркаваў, што час цягнецца вельмі балюча. Паспеў ужо прашаптаць усе малітвы, якіх навучыла яго родная маці. Словамі гэтых малітваў намагаўся заглушыць нарастаючы жах. Гэта, аднак, не ўдавалася. Трывожныя думкі нахабна прасочваліся між словамі малітваў, а злавесны д'ябал прымаў выгляд нямецкага афіцэра, які ганарыста і няспешна шпацыраваў перад перапалоханымі сялянамі.

— „...І не вядзі нас на пакушэнне, але ізбаў ад лукавага...“, — перахрысціўся дзядзька Лукаш.

— Што ты балбочаш, стары? — загаварыў нямецкі афіцэр.

— З грахоў сваіх спавядаюся! — адказаў селянін, прыўзняўшы крыху свой нябрыты твар.

— Вот это карашо! — пахваліў афіцэр. — Але ты не бойся. Мы — народ культурны!

Дзядзька Лукаш яшчэ няшмат, але ўжо нешта ведаў аб гэтай своеасаблівай „культуры“ новых гаспадароў на яго, Лукашовай, роднай зямлі. З бліжэйшых і далейшых вёсак, з Гарадка, Валілаў, Дзернякова, Пясчанікаў прыходзілі звесткі аб арыштах і расстрэлах. Хапала абы-якіх улікаў, напрыклад, што нехта прыхільна адносіўся да савецкай улады.

Не за сябе маліўся і не за сябе так баяўся дзядзька Лукаш. Ён хваляваўся перш за ўсё за сваіх сыноў. Папікаў сябе, што не засцярог іх ад бяды.

„...І не вядзі іх на пакушэнне...“ — зноў прабарматаў селянін. І тады пачуў каманду:

— У дзве шарэнгі станавіся!

Сяляне безуладнай масай пачалі таўпіцца на месцы. Ніхто не хацеў апынуцца ў першым радзе, кожны намагаўся схавацца за плячыма свайго суседа. Мінуты праходзілі і сялянская таўкатня не сунімалася. Нямецкі афіцэр штосьці нервова крыкнуў на сваёй мове і салдаты тут жа накінуліся на людзей ды прыкладамі вінтовак пачалі наводзіць парадак. Цераз мінуту грыбоўскія мужчыны стаялі ўжо ў дзвюх шарэнгах, з рукамі выцягнутымі „па швам“.

Дзіўна і смешна выглядала гэтае сялянскае зборышча. Мала хто меў на нагах нейкі абутак. Стаялі басанож, у даматканых, ніколі не прасаваных нагавіцах, у белых палатняных кашулях, нябрытыя, раскудлачаныя. Некаторыя не паспелі нават і нагавіц нацягнуць дык стаялі ў адных кальсонах.

Нямецкі афіцэр у дбайна дапасаваным чорным мундзіры, сапраўды мог падумаць, што мае перад сабой безразумнае людское быдла, якое яму, як прадстаўніку арыйскай расы, не дарасло і да пят. Ну, што ж, звычайныя унтэрмэншы, падлюдзі, якім справядліва прыдзецца працаваць на паноў тысячагадовай Германскай імперыі.

# НОВЫ ГУРТОК У ВАРШАВЕ

Варшава для беларусаў у Народнай Польшчы — горад вучобы ў вышэйшых школах. Тут кафедра беларускай філалогіі на Варшаўскім універсітэце. На кафедры 80% студэнтаў — гэта маладыя людзі з Усходняй Беласточчыны. Кожны год наша інтэлігенцыя папаўняецца некалькімі магістрамі беларускай філалогіі. Вярнуўшыся ў сваё асяроддзе, працуюць яны пераважна настаўнікамі роднай мовы. Патрэбы ў асвеце і на ніве грамадска-культурнай працы вялікія.

Цяпер у Варшаве налічваецца звыш 300 членаў БГКТ. Ёсць клуб на вул. Сенатарскай 8, які адзін з актыўнейшых у культурна-асветнай працы нашай арганізацыі.

Студэнты беларускай філалогіі ў паразуменні са шматгадовымі варшаўскімі актывістамі БГКТ рашылі рэактываваць гурток на сваёй кафедры. 2 красавіка б.г. адбылася з гэтай нагоды сустрэча ў студэнцкай святліцы. Прынялі ў ёй удзел: д-р Аляксандр Баршчэўскі — старшыня ГП БГКТ і кіраўнік кафедры, Мікалай Аляксеюк — старшыня Варшаўскага гуртка БГКТ і Фёдар Галёнка — інспектар ГП БГКТ на г. Варшаву. У сваіх выступленнях яны гаварылі аб ролі і значэнні дзейнасці гуртка БГКТ на кафедры. Маладыя, адукаваныя людзі патрэбны ў Беларускім таварыстве. Менавіта ў ім ёсць вялікія магчымасці асветніцкай дзейнасці. Тэмы па гісторыі, фальклору, культуры беларусаў — гэта невычэрпныя крыніцы ведаў. Студэнты павінны не толькі здабываць веды, але і іх пашыраць.

На сходзе было паклікана праўленне студэнцкага гуртка на чале са старшынёй Галінай Турык (студэнтка II курса). Арганізацыйныя справы і першыя крокі дзейнасці гуртка зроблены. Добра было б, каб у „Ніву" паступілі матэрыялы з працы гуртка на Беларускай філалогіі. Просьба да вас, маладыя сябры! Пішыце.

**В. Хрысцінін**

## Бібліяграфічны куточак

Выйшаў першы нумар „Падляшскага тыднёвіка" („Tygodnik Podlaski") — дадатку да „Польскага тыднёвіка" („Tygodnik Polski") ад 21 красавіка 1985 г. (хоць надрукавана „1984"). Знаходзім у ім артыкулы, прысвечаныя праваслаўю ў Польшчы і на свеце, у асноўным тэалагічныя разважанні. Адкрываюць дадатак публікацыі двух вядомых праваслаўных тэолагаў у Польшчы епіскапа Іерэміі (дац. д-ра Івана Анхімюка) „Праваслаўе" і праф. Ежы Навасельскага „Ікона сашэсця ў пекла", змешчана таксама інтэрв'ю з мгр. І. Чыквіным — старшынёй беластоцкага аддзялення ХСС пра дзейнасць гэтай арганізацыі ў асноўным у праваслаўных асяроддзях на Беласточчыне і іншыя матэрыялы. Рэдакцыя падае, што дадатак будзе выходзіць раз у месяц і прызначаецца жыхарам Беласточчыны і Падляшша. (іс)

## Парнасік

Чытальніцкая літсуполка на негарантаваных ваях

### ВЯСНА

Вясна косы распускае.
Мае косы залатыя,
птушачак яна склікае
ў любыя краі святыя.

Заахвочвае віць гнёзды,
малых дзетак гадаваць,
весяліцца з ёй заўсёды
кожну раніцу спяваць.

Там, дзе дыхне толькі раз —
усё мігам ажывае:
зелянее траўка, вяз,
збожжа ў палях падрастае.

Нясе радасць чалавеку,
яму сілы прыбаўляе,
заахвочвае да працы
і ў жыцці дапамагае.

**Марыся Манаховіч,**
Аўгустова

## Вестгі з БССР

### СПОРТ

■ Баскетбалісты рэспублікі, юнакі і дзяўчаты старэйшага ўзросту паспяхова выступілі ў фіналах першынства краіны па баскетболу.

Дзяўчаты, якія гулялі ў Шаўляі, заваявалі сярэбраныя медалі, а юнакі ў Адэсе сталі бронзавымі прызёрамі.

■ Міжнародны турнір па барацьбе самба прайшоў у Балгарыі. Гонар Савецкага Саюза абараняла зборная Беларусі.

На яе ліку пяць вышэйшых узнагарод: у У. Япрынцава, В. Крываногава, В. Бахвала, М. Рамазанава і А. Новіка. Другое месца ў А. Веціорэца і трэцяе — у А. Касцюка.

■ У аўстрыйскім горадзе Прэсбаўме прайшло першынство Еўропы па бадмінтону сярод юнакоў і дзяўчат.

Мінская школьніца Таццяна Ваўчок у пары з Андрэем Антропавым з Омска заваявала бронзавы медаль.

■ На ўсесаюзных спаборніцтвах па скачках на батуце вызначыліся беларускія спартсменкі.

У сінхронных практыкаваннях першынствавалі Н. Глушакова з Гомеля і В. Лук'янава з Віцебска.

■ Завяршыліся ўсесаюзныя спаборніцтвы маладых біятланістаў, якія праходзілі пад Мурманскам. У камандным заліку зборная Беларусі заняла першае месца.

■ Некалькі беларускіх барцоў прынялі ўдзел у міжнародных спаборніцтвах „Вялікі прыз ФРГ", якія прайшлі ў Ашафенбургу.

Пераможцамі сталі Ігар Каныгін з Віцебска, мінчане Камандар Маджыдаў і Міхаіл Пракудзін.

Барцы класічнага стылю з Гродна Б. Бадроў, Н. Мазуркевіч і В. Кот прадстаўлялі рэспубліку на ўсесаюзным турніры на прызы І. Паддубнага. І ўсе трое сталі сярэбранымі прызёрамі.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Мне перад самымі святамі прысніўся дурны сон. Усю ноч быццам была нейкая гасціна. Было шмат людзей, і ўсе сядзелі вакол сталоў, быццам у рэстаране. У мяне была бутэлька добрай гарэлкі, і я хацела пачаставаць усіх, хто быў у гэтай зале. Але тыя, што сядзелі бліжэй мяне, абурыліся на тое: не павінна я частаваць усіх, бо выйдзе па вельмі малым кілішку. І тады я пачаставала толькі седзячых каля мяне. А былі гэта быццам мае імяніны, і мае суседзі з-за стала віншавалі мяне, а пасля мы цалаваліся.

Астроне, ты калісь пісаў, што бачыць ува сне шмат людзей — гэта абазначае нейкую залежнасць, страту самастойнасці, а піць гарэлку — значыць мець дурных сяброў. Што цалаванне абазначае дрэннае, я і сама ведала даўно, але я падумала: свята ж, у госці едзем, што ж тут можа быць дрэннага?! І вось уяві сабе, на наступны дзень едзем мы на свята да сваякоў. Перад выездам мелі залатвіць вельмі важную для мяне справу — заехаць да фатографа і зрабіць сыну здымкі. Муж, аднак, настаяў на тым, каб здымкі адлажыць. Нікуды малы не падзенецца! Трэба хутчэй ехаць у госці! Ну, дык мы паехалі.

Вось і страта самастойнасці, падпарадкаванне.

У гасціне ж у сваякоў адбылася зусім непатрэбная размова. Госці падпілі, пачалі хваліцца адзін перад другім. Я няхочучы ўмяшалася. Проста абрыдла слухаць такое безгалоўе і хлусню. Ну, і дайшло да бойкі... І са свят зрабілася жалоба, — бо ўсе амаль перасварыліся і абяцалі адзін другому не ступіць на яго парог. Піць гарэлку ўва сне — мець, значыць, дурных прыяцеляў. Ды цалаванне тое — непрыемнасць.

Вось бачыш Астроне, як спраўдзіліся мае сны. А мой мужык усё гаворыць, што твае разгадкі сноў — гэта толькі жарты.

**Галіна**

Галіна! Усё сама ты разгадала, і сон, на жаль, спраўдзіўся вельмі хутка.

**Астрон**

---

— Мужыкі, слюшай меня! — раскірачыўшыся перад строем сялян, зароў гэты афіцэр. — Мы — прадстаўнікі вялікага нямецкага рэйха, прыносім вам свабоду ад камунізма! Яўрэй — далёй, камуна — далёй, калгас — далёй! Саветы — капут!

Сяляне слухалі моўчкі. Афіцэр гаварыў:

— Мы прынеслі вам новы парадак: дысцыпліна, паслухмянасць і праца.

З далейшага яго выступлення вынікала, што гэты „новы парадак" не прызнае іншага пакарання, апрача пакарання смерцю. За дапамогу савецкім воінам — смерць, за перахоўванне зброі — смерць, за якія-колечы перашкоды ў дзейнасці акупацыйнай улады або нямецкіх салдат — смерць... Адным словам, смерць за ўсё. Напалохаўшы да смерці гэтым „новым парадкам" аслупянеўшых сялян, афіцэр загадаў:

— Камуністы, яўрэі, чырвонаармейцы і работнікі энкавэдэ — два крокі шагам марш!

Ніхто ані дрыгнуў.

— Ну, смялей, не бойцеся! — заахвочваў афіцэр. — То ж кажуць, што камуністы — гэта народ адважны, патрапіць стаяць на смерць за сваю ідэю, — падбухторваў нямецкі афіцэр. Сялянскі натоўп не адгукнуўся. Звесіўшы галовы людзі стаялі, перамагаючы дрыготкі ад нарастаючага хвалявання. Дзядзька Лукаш ухапіў далонь свайго сына і моцна яе пацісну ў. „Не пушчу, калі б і хацеў выступіць з шарэнгі!" — рашыў у думках.

Афіцэр ішоў уздоўж сялянскага зборышча і дапытліва пазіраў мужчынам у вочы, як бы намагаўся пранікнуць у глыбіню душы кожнага з іх. Хто меў на галаве шапку, перад тым ён спыняўся і правяраў даўжыню валос, ці даўно быў падстрыжаны. У некаторых мацаў пальцамі кашулю, ці яна дамаатканая ці купная, можа салдацкая?

І гэтая праверка не дала вынікаў, бо, сапраўды, сярод сялян не было ані савецкіх салдатаў, ані іншых чужых людзей. Кожны тут ведаў кожнага і, каб захацеў даць волю свайму языку, мог бы выявіць усе тайны кожнай сям'і да трэцяга пакалення ўключна. Ведалі таксама, хто быў членам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, хто належаў да камсамола.

— Даю вам пяць хвілін на роздум! — апавясціў нямецкі афіцэр і, звярнуўшыся да сваіх салдат штосьці да іх гаўкнуў. Тыя ў адзін момант шчоўкнулі затворамі сваіх вінтовак і нацэліліся ў натоўп. Афіцэр чакаў.

Дзядзька Лукаш пачуў, што ў яго сына пацее далонь. Мацней заціснуў на ёй свае пальцы і непрыкметна пацягнуў рукою ўніз. „Стой, маўляў, на месцы!" Але і яму самому цяжка давodзілася ўтрымаць сябе ў спакоі. У сярэдзіне ўсё ліхаманкава дрыжэла. Ведаў ён, што сярод гэтага зборышча грыбоўскіх мужчын і юнакоў маглі знайсціся і такія, якія са злосці або і са звычайнай дурноты, ратуючы свой уласны хрыбет, маглі б тыцнуць пальцам у яго сына і назваць яго камуністам. Хаця б за тыя пабітыя вокны, або за парэзаныя вужвы ў час лясной забастоўкі. То ж гэта так проста: падняць руку і тыцнуць пальцам:

— Вось ён — камуніст! — і годзе.

Афіцэр паглядзеў на гадзіннік.

— Асталася яшчэ адна мінута! — апавясціў. — Я чакаю! Пазней будзе запозна. Мы — народ такі, што ў нас парадак мусіць быць! — І гэты сказ паўтарыў яшчэ па-нямецку: — Дэр орднунг мус зайн! — закрычаў з асаблівай асалодай. — Хто ведае пра камуністаў, яўрэяў, чырвонаармейцаў, энкавэдыстаў, ды пра ўсіх іншых савецкіх актывістаў і не захоча нам гэтага выявіць, будзе таксама прызнаны ворагам вялікага рэйха і сустрэне яго заслужанае пакаранне, пакаранне, — адзначыў, — ваеннага часу! — Ён зноў глянуў на гадзіннік. — Час на развагу — скончыўся! — апавясціў і пытальным позіркам

(Працяг на стар. 8)

**ЦІКАВІНКА**

## ПАМІЖ ЖЫЦЦЁМ І СМЕРЦЮ (3)

Найлепшы рэцэпт, як прадоўжыць жыццё, перадаў нам яшчэ старажытны рымскі філосаф Сенека. Ён сказаў: „Перастань скарочваць сваё жыццё!“ А скарочваць сваё жыццё розным спосабам мы цяпер вельмі ўмеем.

Але чалавек усё шукае спосабу на прадаўжэнне жыцця. У нашы дні павырасталі, як грыбы пасля дажджу, розныя клінікі і цэнтры, якія за вялікія грошы займаюцца амалоджваннем старых. Аб выніках тых розных амалоджванняў часта чытаем у часопісах і газетах і дзіву даемся, забываючы пры гэтым, што ніводзін такі факт рэальна не даказаны. Можа той, каму амалоджванне „памагло“ і так даўжэй жыў бы. Пры тым, усе гэтыя лячэнні не для звычайнага чалавека, бо яны страшэнна дарагія.

Вось, напрыклад, у адной такой клініцы ў Швейцарыі амалоджвалі ўколамі з клетак, якія былі ўзяты з яшчэ ненароджаных ягнят (значыць, трэба было забіваць цяжарныя авечкі, каб тыя ўколы зрабіць). Восем такіх уколаў каштавала 2 тысячы долараў. А ўсё ж лячэнне гэтакімі ўколамі прыняло звыш 42 тысяч чалавек з усяго свету. Між іншым, папа Пій XII, Адэнаўэр, Тамаш Ман, Хрысціян Д'ёр, Уінстон Чэрчыль, Чарлі Чаплін.

Як прадстаўляецца даўгавечнасць у гісторыі? Статыстыкі і доследы паказваюць, што першабытны чалавек жыў у сярэднім 18 гадоў, у старажытнай Грэцыі — 20, у старажытным Рыме — 22, у сярэдневяковай Еўропе — 30, у Амерыцы 1900 года — 49, у 1975 — 76,5 гадоў.

Але сярэднія статыстычныя лікі нічога не гавораць аб сапраўднай даўгавечнасці людзей якраз таму, што падаюць сярэднюю жыцця, а яна залежыць ад таго, ці нованароджаныя дзеці адразу не ўміраюць. У першабытным грамадстве абсалютная большасць нованароджаных дзяцей памірала. Але таксама і ў тую прымітыўную эпоху былі людзі, якія дажывалі 80 гадоў. Калі ж медыцына навучылася ліквідаваць смяротнасць малых дзяцей, сярэдняя жыцця чалавека адразу падскочыла ўверх.

А праўда ёсць такая, што сучасная цывілізацыя дазваляе даўжэй жыць нованароджаным, але змяншае даўжыню жыцця людзей старэйшых. Напрыклад, даказана, што ў такіх краінах як: ЗША, ФРГ, Францыя, Бельгія, Аўстрыя, Данія, Галандыя, Вялікабрытанія пасля 65 гадоў працяглась жыцця не расце, а змяншаецца. Амаль не прадоўжылася жыццё старых людзей у нас цяпер у параўнанні з 1900 годам. Затое амаль абсалютна зліквідавана паміранне малых дзяцей.

У Польшчы ў апошнія гады мужчыны жывуць карацей. Хутчэй таксама, чым у 1950 годзе, паміраюць людзі ў гарадах.

Каб прадоўжыць жыццё, трэба нешта змяніць. Вучоныя крычаць, што перш за ўсё трэба даць працу мускулам (яны не

(Працяг на стар. 11)

Важным фактам вясельнага абраду быў сам акт заключэння сужонства. Аўтар многіх фальклоразнаўчых публікацый М. Грынблат на гэту тэму піша наступнае:

„Паводле звычаю, які ўсталяваўся з даўніх часоў і таксама вынікае з гаспадарчых меркаванняў, вяселлі спраўлялі ў пэўныя сезоны. Найбольш іх спраўлялі ў позднюю восень пасля ўборкі ўраджаю і заканчэння палявых работ, калі сялянская сям'я некаторы час знаходзілася ў адносным дастатку“.

Прыведзеная апінія з бліжэй незразумелых прычын абыходзіць адну вельмі важную справу. Грынблат, на жаль, не бярэ пад увагу таго факту, што сужонства магло ў мінулым фіналізавацца толькі выключна ў тыя перыяды, якія былі дазволены царквой. Абмежаванні ў гэтай галіне, зрэшты, абавязваюць і сёння ўсіх тых, хто бярэ шлюб у царкве.

Выдатны знаўца прадмету П. Доўнар-Запольскі ўносіць у гэту справу вельмі істотнае і сапраўды трапнае паясненне. Гаварыў ён намнога раней, чым зрабіў гэта Грынблат, што сапраўды для сялянскага вяселля найбольш адпаведнай парой была восень з увагі на тое, што восенню сялянская сям'я распараджалася пэўнымі матэрыяльнымі актывамі, якіх не было падчас іншых пор года. Пры гэтым, аднак, Доўнар-Запольскі дадае вельмі характэрную дэталь. Гаворыць, што сям'я ўступаючага ў сямейныя сувязі хлопца, у адваротнасці да сям'і дзяўчыны, не была зацікаўлена шлюбам, заключаным у восеньскую пару. Вынікала гэта з таго факту, што ўведзеная ў новую сям'ю нявестка пасля восеньскіх палявых работ была толькі „лішняй губой“ пры спажыванні таго, што было падрыхтавана на працягу вясны, лета і восені. У сувязі з тым, хлапец, які рашаўся ажаніцца позняй

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

восенню, мог разлічваць на большы пасаг. Пасаг гэты быў свайго роду кампенсацыяй, матэрыяльным забеспячэннем на зіму. Жэніўся вясной, калі пачыналіся веснавыя работы, магчымасць атрымання такой кампенсацыі адпадала.

Найстарэйшыя жыхары Усходняй Беласточчыны пацвярджаюць выступленне такога тыпу меркаванняў у мінулым.

„Колісь то вано было так, — кажа жыхар вёскі Янова, Міраслаў Самойлюк, — што кажды батько чы маті то старалісь дочку выпхнуті замуж позною осенню, колі ўжэ полевые роботы кончылісе. Бо вано відомо, што зімою рукі робочы мэнш потрэбны, чым літом, а рот однаково есті хочэ. Але вано відомо, што сем'я хлопця не была дурная і ні вельмі хотела браті нівестку на зіму. Колі вано і доходіло до шлюбу позною осенню, то сем'я деўчыны мусіла даті больш посагу, чым дала б, оддаючы деўку вэсною. А з тым посагом то самі вэдаете, як на рынкові: одін хочэ як наймэнш даті, а другі хочэ як найбольш узяті. Як почнут, бывало, сварытіся, як почнут грызтісе, то аж ніраз гадко слухаті. Ну, але ж такі быў старадаўны обычай і калі б без гэтых торгаў обышлосе, а пасля шлюбу штось вышло не так, як трэба, то ўсе говорылі б: а то тому бідою скончылосё, што ні посварылісе і не поторговалісе ў часе розглядоў чы ладоў. Дэ ж воно ўсе тое цепер поділось, скажэтэ, вы ж вучоные?“

Значыць, сапраўды таксама і на Усходняй Беласточчыне пара года мела вельмі важнае значэнне ў выбары і вызначэнні тэрміну фіналізацыі шлюбу. Як ні дзіўна з сённяшняга пункту гледжання, але ў гэтай фіналізацыі галоўную ролю адыгрываў не пачуццёва-эмацыянальны, але матэрыяльны момант.

**А. Баршчэўскі**

**ФАЛЬКЛОР**

### БРАТ СЭСТРОНКУ БЭРЭ

(балада)




Поехаў мой братішко на сем лет на бояры, ой, рано!
Шукаті собе панны, так як сэстронкі Ганны, ой, рано!
Прыехаў додому, вывінуў шабэлькою, ой, рано!
— Ганульку-сэстронко, застілай столы-лавы, ой, рано!
Застілай столы-лавы — едэ гость нібывалы, ой, рано!
— Братішку-Івашку, які гость будэ, ой, рано!
— Я ў тэбэ гостём буду, я ў тэбэ ў дівоснубы, ой, рано!
— Як свет светом настаў, брат сэстронкі нэ браў, ой, рано!
І ты нэ будэш браті — стану выстаноўляті, ой, рано!
Скочыла Ганулька до новое коморы, ой, рано!
Положыла голоўку на свое шлюбны ўбёры, ой, рано!
— Росступісе, зэмля, бо брат сэстронку бэрэ, ой, рано!
Дэ голоўка ўпала, там цэркоўка стала, ой, рано!
А дэ ручкі ўпалі, там свiечэчкі посталі, ой, рано!
А дэ ножкі ўпалі, там порожкі посталі, ой, рано!

Ад Вольгі Нікановіч, 1889 года нараджэння, і яе дачкі Анны Комар, 1932 года нараджэння, вёска Макаўка гм. Нарва, запісаў у верасні 1983 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

**Куток практычных ведаў**

■ Шыбы і люстэркі, памытыя салёнай вадой, набываюць прыемны бляск.

■ Каб асвяжыць фарбы на дыване, пасыпце яго з вечара соллю, а раніцай пратрыце вільготнай анучкай.

■ Забруджаныя бутэлькі можна хутка пачысціць растворам з воцату і солі.

■ Каб не плакаць, калі чысціце цыбулю, загадзя абліце яе варам.

■ Рыба лёгка пачысціцца, калі спачатку абліць яе варам, а затым адразу абліць халоднай вадой.

■ Калі ў тлушч, у якім вы збіраецеся штосьці смажыць, дадаць лыжку вінаграднага воцату, тлушчу пойдзе значна менш.

■ Калі ў цвятной капусце ёсць чарвякі, пакладзіце яе на гадзіну-другую ў халодную ваду, у якую дадайце лыжку солі і лыжку воцату.

(Працяг са стар. 7)

# ДАВАЙ КАМУНІСТАЎ

павёў па прысутных, перапалоханых сялянах. Яны маўчалі.

— Ну, карашо! — адазваўся — Я вам веру і болей трымаць вас тут не буду.

Кожны з прысутных пачуў вялікую палёгку, як бы нейкая спагадлівая рука адваліла з грудзей вялікі, гнятучы камень.

— Ідзіце дамоў! — гаварыў далей нямецкі афіцэр. — Ідзіце і спакойна працуйце. Трэба многа працаваць. Вялікі нямецкі народ вядзе вайну, — зноў павёў вачыма па тварах сялян. — Нямецкі салдат патрабуе яда, фэрштандт? Дык трэба працаваць і неадкладна выконваць усе распараджэнні нашай улады.

З цэлай гэтай прамовы сяляне зразумелі толькі адно: нічога добрага іх не чакае. Вярталіся дамоў шчаслівыя, што ўдалося ім пазбегнуць найгоршага, але ахвоты да працы, да гаспадарчай руплівасці, да якой заклікаў іх гэты гітлераўскі афіцэр, у іх не было. Ішлі ў поле, касілі і жалі, бо час гэтакі настаў, бо шкада было пакінуць нязжатую палосачку, але ўнутранага задавальнення ад гэтай працы — ніякага.

Усё часцей сусед пытаў у суседа: што чуваць, дзе немцы, ці Масква яшчэ стаіць?

Шаша з Ваўкавыска ў Беласток запоўнілася калонамі ваеннапалонных. Страх было глядзець на гэтых змучаных, ледзь жывых людзей...

Але гэта ўжо іншая справа. На сёння хопіць.

**Віктар Рудчык**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ 85“ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

# ГМІННЫ АГЛЯД У НАРВЕ



Калектыў з Янова.

Дзень 16 красавіка ў Нарве быў святам беларускай песні. Зала пры супрацьпажарнай рамізе запоўнілася ўдзельнікамі і слухачамі. Хто прыйшоў трошкі пазней, ледзь ужо мог змясціцца ў даволі вялікай зале.

У конкурсе прынялі ўдзел вучні з пяці школ: з Нарвы, Ласінкі, Янова, Трасцянкі і Крыўца. Выступіла восем салістаў, адно трыо, два квартэты, квінтэт і сяміасабовы калектыў з Янова.



Удзельніцы конкурсу з Нарвы.

Цікавыя былі выбраныя і прадстаўленыя на конкурс песні. Кожная школа пастаралася знайсці і паказаць нешта новае, невядомае слухачам. Напрыклад, квінтэт з Ласінкі заспяваў зусім незнаёмыя для слухачоў прыгожыя беларускія песні, а іншыя ўдзельнікі — амаль усе хоць па адной новай. Вельмі ўсім спадабаліся маленькія дзяўчаткі з Ласінкі, якія спявалі ў квартэце. Іх песня „Ганулька“ прагучала так сімпатычна і мілагучна, што члены камісіі неяк адразу назвалі дзяўчатак „Ганулькамі“. Так зацвердзілася назва гэтай групы. Добра пастаўленым голасам спявала васьмікласніца з Ласінкі Крыся Бароўская. Яна выканала „Алесю“ і народную беларускую песню „Ой у полі вярба...“

З Нарвы ўдана выступілі сёстры Галіцкія. Старэйшая з іх, Аня, лаўрэатка мінулагодняга цэнтральнага агляду, на гэты раз спявала пад акампанемент сваёй малодшай сястры, якая грала на акардэоне. Гэта спрыяла яшчэ большаму поспеху на конкурсе. З Нарвы выступіла яшчэ адна салістка і дзявочае трыо.

З Трасцянкі прыехаў на конкурс другакласнік. Ён заспяваў вельмі мілую дзіцячую песеньку „У Пеці поўная ўдача“. Спяваў ён добра, але вельмі ж спалохаўся, калі давялося выйсці на сапраўдную вялікую сцэну перад поўнай залай.

Крывец прыслаў на конкурс мешаны квартэт. Вучні гэтай школы ўпершыню ўдзельнічаюць у конкурсе беларускай песні. Але выступілі ўжо нядрэнна.

Школа ў Янове падрыхтавала на выступленне ў Нарве слоўна-песенны мантаж, так укладаючы праграму, каб кожны з салістаў заспяваў патрэбныя ў конкурсе дзве песні. Удзельнікі выступілі ў нацыянальных касцюмах. Дзявочыя вышываныя блузкі былі куплены за ўзнагароду, якую школа атрымала за мінулагодні дэкламатарскі конкурс. Хлопцам касцюмы падрыхтавалі бацькі. У сваёй праграме дзеці выкарысталі розныя народныя рэквізіты — кошычак з садавінай, гароднінай і збожжам, як сімвал ураджаю, вышываны ручнік, букецік каласкоў-перапяліцу і іншае. Дзве салісткі гэтага калектыву — Тамара Назарук і Мірка Дударык — вытыпаваны камісіяй на цэнтральны агляд беларускай песні для школьнікаў у Беласток.



Квартэт з Крыўца.

Сярод іншых удзельнікаў на цэнтральны агляд атрымалі права паехаць Крыся Бароўская з Ласінкі, Аня Галіцкая з Нарвы, квартэт і квінтэт з Ласінкі.

Камісія ў пратаколе запрапанавала прасіць арганізатараў цэнтральнага агляду даць магчымасць выступіць у Беластоку ўсяму калектыву з Янова.

Жадаем усім удзельнікам далейшых поспехаў.



„Ганулькі“ з Ласінкі.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**

ДА 40-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ НАД ФАШЫЗМАМ

# КАЛІ ЗАКУКУЕ ЗЯЗЮЛЯ

Вось ужо год, як у сяле гаспадарылі фашысты. Школу яны закрылі, а ў яе будынку зрабілі паліцэйскі пастарунак. Начальнікам у іх стаў Панько.

У хаце, дзе жылі Пеця з Валодзем, цяпер фашысцкі штаб. У вялікім пакоі на сцяне развешаны карты, побач — стаяць жалезныя скрыні з дакументамі. Афіцэры часта збіраюцца за доўгім сталом (з трох звычайных збілі), аб нечым гавораць. А ў бакавым пакоі, праз сенцы, жывуць два высокія чыны.

Пеця і Валодзя — браты. Бацька іх на фронце б'е фашыстаў. Маці цэлы дзень у полі. Хацелі і іх на работу пагнаць, бо не маленькія ўжо: аднаму дванаццаты год, а другому трынаццаты, але нямецкі салдат, дзяншчык афіцэрскі, не адпусціў, бо загадвае ім то дровы калоць, то па ваду збегаць. Ды яшчэ ў братоў ёсць адна сталая праца. Яны служаць у штабе... вешалкамі. Не ведаеце, што такое вешалкі? Ну, штуковіны такія, на якіх адзежу вешаюць. Бываюць вешалкі металічныя, бываюць і драўляныя. У хаце, дзе жылі Пеця з Валодзем (цяпер яны вымушаны жыць у хляве), таксама ёсць вешалкі — драўляныя дошчачкі, прыбітыя да сцяны, а на іх калочкі. Дык фашыстам, бачыце, іх захацелася зрабіць вешалкамі. І вось цяпер, калі афіцэры абедаюць, клічуць братоў у свой пакой і вешаюць на іх мундзіры, рамяні, на галаву накідаюць агідныя шапкі... Яшчэ і насмейваюцца, а ўвесь час аб нечым гавораць. Калі з імі абедае і Панько (і такое бывае), адзін з афіцэраў — худы і лысы — перакладае, і тады браты даведваюцца аб страшных рэчах: Гітлер абяцае наведаць Украіну, дык, можа, і ў Грушкі загляне; Паньку з паліцаямі загадана разагнаць партызанаў, што паявіліся ў лесе.

...Пеця стаяў ля стала і глядзеў, як афіцэры елі тушанае мяса. У яго каціліся слінкі, і ён ледзь паспяваў іх глытаць. Той, што ведаў рускую мову, заўважыў гэта і холадна ўсміхнуўся, а потым сказаў нешта суседу. Той устаў, падышоў да братоў і павярнуў іх тварам да сцяны, дзе цікалі ходзікі з зязюляй.

Ад няма чаго рабіць, Пеця разглядваў усё, што вісела на Валодзю. Тонкае сукно, бліскучыя нашыўкі, крыж. „Ордэн гітлераўскі“, — здагадаўся. Пахла скурай ад рамянёў і кабур з пісталетамі. Яны адцягвалі плячо — хоць невялікія, а цяжкія. „Вось каб выхапіць ды прыстрэліць гадаў, — мільганула думка — ці змагу, а калі не выйдзе — нікому не даруюць!“

Ноччу над сялом ляцелі самалёты. Маці з трывогай паглядвала на неба. Выйшла на двор. За ёй Пеця.

— Чые гэта, мама?

(Працяг на стар. 10)

